# ЗГОДА ПАЛІТЫКА

Выдаецца з ліпеня 1992 года

№ 4 (109) ліпень 1997

27 ИЮЛЯ

## ДЕНЬ НЕЗАВИСИМОСТИ

Как бы там ни было в воскресенье 27 июля состоялось празднование Дня независимости. В 14.15 от площади Якуба Колоса двинулось праздничное шествие по проспекту Франциска Скорины. А в 15.20 у Оперного театра начался митинг оппозиции.

Митинг закончился не слишком политизированным концертом белорусских рок-групп.

В шествии по проезжей части проспекта, несмотря на милицейские угрозы, участвовало до 8 тысяч человек. И какое-то количество зевак и журналистов по окрестным тротуарам сопровождало манифестацию.

**(Окончание на с. 2)**




ОТ РЕДАКЦИИ

## СВОБОДНОЕ СЛОВО НЕПОБЕДИМО

**Несвободно свободному слову в независимой Беларуси. Одни газеты проверяют и штрафуют, другим не дают издаваться в родной стране, третьим ставят препоны в распространении. Журналистов подвергают задержаниям и арестам. Ни за что, ни про что лишают аккредитации, как например, Александра Ступникова, а вслед за ним Павла Шеремета. Уже готовы поправки к закону о печати, которые и вовсе сводят на нет право граждан свободно получать и распространять информацию.**

**Власть боится свободного слова как черт ладана, ибо не способна эффективно противостоять ему, несмотря на многократный перевес государственной прессы над негосударственной, на монопольное владение электронными СМИ. И потому, следуя заурядной логике всех диктаторских режимов, пытается на корню искоренить крамолу, т.е. ликвидировать даже те немногочисленные независимые издания, которые еще сохранились в Беларуси.**

**Притворяясь пока демократической и не решаясь на их прямой запрет ( приходится считаться с внутренней оппозицией и мировым общественным мнением), власти предержащие наряду с методами политического давления все активней прибегают к методам экономического удушения независимых изданий. Налоги, арендная плата как с коммерческих структур, штрафы, наезды с проверками на спонсоров, на распорядителей -- из этого арсенала. СМИ держатся. Задыхаются, снижают тираж и зарплаты (добровольно), временно не выходят и вновь возрождаются. И наступают — объективным, свободным словом.**

**С апреля в связи с материальными трудностями не выходила и наша газета "Згода-Политика". Мы вывернулись. И вновь, благодаря солидарной поддержке коллег и друзей, выходим.**

**Мы вводим в название слово "политика". Ибо прекрасное слово "згода" скомпрометировано властью, которая понимает его как согласие с нею, ее указами, приказами, установлениями и повелениями. Оно скомпрометировано одноименной фракцией ВС, со "згоды", которой в стране совершился государственный переворот.**

**Мы оставляем названием газеты слово "Политика". Мы будем писать о политике большой и малой, о людях известных и неизвестных, о простом и маленьком человеке, который на самом деле является и целью, и жертвой, и творцом, и венцом политики. Мы постараемся писать не сухо и интересно. И обязательно объективно.**

**Мы счастливы, что у нас вновь появилась возможность к свободному слову других добавить свое. Мы уверены, что свободное слово непобедимо. Особенно, если оно опирается на солидарную взаимоподдержку всех его носителей.**

ХРОНІКА ПАДЗЕЙ

Тыдзень з 14 па 18 ліпеня ад значаны разнастайнымі піке тамі. Але найбольшы розгалас набылі падзеі вакол Беларускага гуманітарнага ліцэя, адзінай у свеце сярэдняй навучальнай установы, дзе гуманітарныя дысцыпліны падлеткі вывучаюць паглыблена і па-беларуску.

Дзмітрук Міхалевіч

## БАРАЦЬБА ЗА ПРАВА ВУЧЫЦЦА ПА-БЕЛАРУСКУ

У пятніцу 11 ліпеня па неафіцыйных каналах бацькам стала вядома, што яшчэ 1 ліпеня А. Лукашэнка сваім распараджэннем № 182рп перадаў у апературнае кіраванне ведамству Івана Цыцянкова 22 будынкі ў Мінску. Сярод іх і дом 21 на вуліцы Кірава, дзе размешчаны Беларускі гуманітарны ліцэй.

Аб распараджэнні ведалі чыноўнікі Міністэрства адукацыі, але ўтойвалі яго ад калектыву педагогаў, вучняў і бацькоў. У гэтым дакуменце нічога не гаварылася пра лёс навучальнай установы: будзе яна працаваць далей ці не.

Пасля нарад бацькі вырашылі прыцягнуць да праблемы грамадскую ўвагу. Гэта вельмі важна адзначыць: менавіта бацькі аб'ядналіся ў змаганні за права выбіраць для дзяцей від навучання. Да справы яны падключылі і вучняў. Сход педагогаў адбыўся толькі 14 ліпеня, у другой палове дня.

Да гэтага часу ўжо быў праведзены першы пікет на вуліцы Кірава. Ужо былі складзеныя лісты да А.Лукашэнкі, да інтэлігенцыі і інш. Бацькі выйшлі на сувязь з карэспандэнтамі айчынных і замежных СМІ. Паколькі было вядома, што будынак хочуць аддаць ці то прадстаўніцтву ААН у Беларусі, ці то службе, якая абслугоўвае дыпламатычныя місіі, напісалі лісты да замежных амбасад у Рэспубліцы Беларусь.

Апоўдні 15 ліпеня адбыўся другі пікет. Міліцыя пагражала разгонам, але выкарыстаць сілу яшчэ не адважылася. Пасля пікету старшыня бацькоўскага камітэта Сяргей Крыштаповіч развозіў па пасольствах лісты. Дзеці зрабілі ўлётку і расклейвалі яе ў цэнтры горада.

Вучаніца Ксенія Мурач наважылася наклеіць адну з іх на рэзідэнцыі прэзідэнта. Яе схапіла і тры гадзіны пратрымала ахова рэзідэнцыі, потым дзяўчыну завезлі ў райаддзел і там пратрымалі яшчэ дзве гадзіны. Міліцыянты прыйшлі ў ліцэй і запатрабавалі, каб намеснік дырэктара Ірына Сідарэнка разам з імі паехала ў райаддзел, апазнала і назвала пайменна ўдзельнікаў пікету. Патрабаванне не знайшло разумення.

Атрымаць дазвол на правядзенне пікету было немагчыма: бацькі аніяк не маглі злавіць на месцы працы намесніка старшыні Мінгарвыканкама Віктара Чыкіна. Таму 16 ліпеня бацькі і вучні стаялі ўздоўж сценаў ліцэя ўзяўшыся за рукі, без плакатаў.

17 ліпеня людзі зноў сабраліся ў ліцэі. На гэты раз да навучальнай установы прыбыў узмоцнены нарад міліцыі, а з міліцыяй — коратка стрыжаныя маладчыкі ў красоўках. Людзі вырашылі зноў выйсці на вуліцу. Аднак вароты і брамка былі на замку, а перад імі на вуліцы стаяў міліцэйскі кардон.

Дырэктар ліцэя Уладзімір Колас заклікаў бацькоў і вучняў да спакою. Ён расказаў пра сустрэчу з міністрам Васілём Стражавым і выказаў асцярожны аптымізм наконт будучыні ўстановы. Ён яшчэ не ведаў, што напярэдадні міністр выдаў загад аб правядзенні здачы-прыёмкі будынка.

Бацькі і вучні з картамі, глобусамі, кнігамі ў руках не паслухаліся яго і пайшлі на вуліцу Карла Маркса. Яны ішлі па тратуары, павярнулі на вуліцу Леніна, выйшлі на вуліцу Кірава. Калі шэсце апынулася на вуліцы Камсамольскай, насупраць штаб-кватэры СНД, міліцыянты атрымалі каманду схапіць чатырох чалавек.

Схапілі Анатоля Палаценку, потым Алеся Станішэўскага. Ужо на вуліцы Маркса напалі на Сяргея Крыштаповіча. Аднак план не быў выкананы. На ганку ліцэя падпалкоўнік і маёры перагарадзілі шлях і напалі на Алеся Калбаску.

Урэшце бацькам ўдалося натрапіць на няўлоўнага Чыкіна, і той выдаў дазвол на правядзенне пікетаў. Чатыры дні бацькі абівалі парогі адміністрацыі прэзідэнта. І толькі 18-га ім удалося сустрэцца з Міхаілам Падгайным — начальнікам галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі.

Высокі прэзідэнцкі чын абяцаў даць адказ у панядзелак 21-га. А ўвечары ў ліцэі разбіралі пошту. У адным з канвертаў ляжаў міністэрскі загад...

■

З НАГОДЫ

Таццяна Нікіціна

## ПЕРАДЗ`ЕЗДАЎСКІЯ КЛОПАТЫ

### АЛЬБО ЯК ЗНОЎ САБРАЦЬ РАЗАМ БЕЛАРУСАЎ

18 красавіка ў сядзібе Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" адбылося першае пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па правядзенні Другога з`езда беларусаў свету. Прэзідэнт ЗБС акадэмік Радзім Гарэцкі паведаміў прысутным, што кіраўніцтва грамадскай арганізацыі "Бацькаўшчына" ў пачатку года мела сустрэчу з прадстаўнікамі ўрадавых структур, якія дэкларавалі намер дзяржавы прыняць удзел у падрыхтоўцы з`езда, але пры ўмове, калі на ім не будзе гучаць крытыка сучаснай беларускай палітыкі.

Старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Г.Сурмач паведаміла журналістам у чэрвені месяцы, што кіраўніцтва грамадскай арганізацыі нарэшце атрымала адказ ад дзяржаўных уладаў, у якім гаворыцца, што дзяржава будзе падтрымліваць правядзенне з`езда і часткова фінансаваць яго. Як і ў мінулы раз, ЗБС будзе працаваць з дзяржавай на партнёрскіх пачатках. Усе спрэчныя пытанні, якія існавалі паміж урадавымі структурамі і грамадскай арганізацыяй, былі абмеркаваны, па словах Г.Сурмач, на афіцыйнай сустрэчы ў адміністрацыі прэзідэнта. Уся праграма і канцэпцыя з`езда выпрацаваны ЗБС і ўціску з боку кіраўніцтва дзяржавы "Бацькаўшчына" не адчувае.

Напярэдадні з`езда, 21 ліпеня 1997 года, ва Управе ЗБС "Бацькаўшчына" спадарыня Ніна Петухова падкрэсліла, што, як і было запланавана, з`езд будзе праходзіць 26-27 ліпеня ў памяшканні Тэатра музычнай камедыі. З-за мяжы пацвердзілі свой прыезд каля 200 чалавек -- гэта прадстаўнікі беларускай дыяспары з краін Заходняй Еўропы, краін Балтыі, з Расіі, Украіны, Малдовы, Туркменіі, Казахстана. Вітаць з`езд будзе народны пісьменнік Беларусі В. Быкаў. Група нашых суайчыннікаў з ЗША, якая ў ліпені месяцы рабіла турыстычную паездку па Беларусі, 21 ліпеня адправілася дамоў, і гэта азначае, што яны не будуць прымаць удзелу ў з`ездзе.

***(Заканчэнне на с. 2)***

БСДП

15 ліпеня сацыял-дэмакраты наладзілі пікетаванне нацыянальнага прэсцэнтра з нагоды другога раўнду трохбаковых перамоў пры ўдзеле місіі Еўрасаюза. Каля трох дзесяткаў чалавек на чале са старшыней партыі Мікалаем Статкевічам трымалі транспаранты "Няма падзелу ўладаў – няма канстытуцыі", "Переговоры идут – режим укрепляется", "Сацыял-дэмакраты за парламенцкую рэспубліку". І выказвалі свой пратэст супраць капітуляцыйнага характара перамоў і нахабства прэзідэнцкага боку, які фактычна скасаваў магчымы кампраміс прыкрымі захадамі па знішчэнню рэшткаў незалежных грамадскіх інстытутаў у Беларусі.

Групоўка моладзі з аб`яднання "Маладая Грамада" трымала плакат "Знізу гледзіць у Бацькаў рот Лукамольскі патрыёт " і распаўсюджвала заяву, дзе сцвярджалася, што "Лукашэнка, напэўна, забыўся пра тое, што, калі ідуць перамовы, маўчаць гарматы...".

Дарэчы, калі некалькі "маладых патрыётаў" праходзілі каля пікета ды ўбачылі прысвечаны ім лозунг, яны шчыра, але трохі нервова смяяліся, і настрой пікетчыкаў палепшыўся.

Незразумелае надвор`е не

Сяргей Марцэлеў

## ПІКЕТ

спрыяла колькасці ўдзельнікаў і гледачоў. Актыўна цікавіліся тым, што адбываецца, толькі рэпарцёры ды міліцыянты, якія згодна службовым абавязкам мітусіліся побач.

Неўзабаве да пікета далучыліся дэпутаты Вярхоўнага Савета XIII склікання Уладзімір Нісцюк, Мечыслаў Грыб, віцэ-спікер Генадзь Карпенка і намеснік старшыні БНФ Юры Хадыка. Удзельнікі перамоваў выказвалі ўдзячнасць пікетчыкам за падтрымку і паабяцалі абараняць Канстытуцыю 1994-га года " не зыходзячы ні на крок ". Праз дзве гадзіны, як было дамоўлена з гарадскімі ўладамі, людзі без інцыдэнтаў разышліся.

Мусіць, што сацыял-дэмакраты вырашылі ўзначаліць апазіцыю, пакуль фронт адпачывае ад менскай Вясны-97. 27-га ліпеня яны плануюць правесці дэманстрацыю прысвечаную Дню Незалежнасці. Мабыць таму, аналагічную заяўку ў Мінгарвыканкам падаў і БНФ. Ці здолее групаваная апазіцыя сабраць людзей падчас летніх вакацый -- паглядзім.

■

ПОЗДРАВЛЯЕМ

Жизнь, вобравшая три эпохи: советскую, постсоветскую времен перестройки и постперестроечную. И в каждой из них Георгий Станиславович Таразевич оставался личностью, оставался самим собой.

В эпоху первую он -- крупный государственный деятель: председатель Верховного Совета БССР, председатель Минского горсовета. В эпоху вторую -- активный реформатор: депутат Верховного Совета СССР. В эпоху третью -- видный оппозиционер.

Высланный еще В.Кебичем послом в Польшу, Георгий Станиславович вполне мог сохраниться в официальной чиновной элите. Даже без особого морального ущерба: достаточно было просто молчать. Но не принял политику А.Лукашенко. Выступил с резкой критикой режима, вполне отдавая себе отчет о последствиях, кои не заставили себя ждать.В 1995 го-

## ГЕОРГИЮ ТАРАЗЕВИЧУ ИСПОЛНИЛОСЬ 60 ЛЕТ



ду — чрезвычайный и полномочный посол Республики Беларусь Георгий Таразевич остался без работы. Не склонившему, хотя бы в полупоклоне, головы нынешняя власть должности не предлагает.

Георгий Таразевич, по образному определению известного публициста А. Федуты -- " человек-партия ", тем не менее не застыл в гордом самолюбовании. Четко понимая значение демократических институтов, он вошел в команду основателей Белорусской социал-демократической партии. Коллеги по партии сердечно поздравляют Георгия Станиславовича.

Редакция газеты присоединяется к ним и надеется на дальнейшее плодотворное сотрудничество с политиком и публицистом Георгием Станиславовичем Таразевичем.

